*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

№ 211 (563)

Аўторак, 24 лістапада 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**Нельга маўчаць!**



*Сямён ШАРЭЦКІ,*
*старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання.*

## Чорны дзень

У кожнага народа апроч рэлігійных святаў ёсць яшчэ гады і дні, якія ўвайшлі ў яго жыццё як знамянальныя вехі. Для беларускага народа найбольш значнымі датамі гісторыі з'яўляюцца:

992 год — год узнікнення Полацкай хрысціянскай епархіі (зазначым, што ў той час яшчэ не было афіцыйнага падзелу хрысціянства на каталіцызм і праваслаўе, хаця і існавала ўжо некаторая розніца паміж абрадамі ўсходняй і заходняй яго часткі);

1252 год — год каранацыі першага караля беларуска-літоўскай дзяржавы, якая паслужыла асновай Вялікага княства Літоўскага;

15 ліпеня 1410 года — дзень перамогі войск Вялікага княства Літоўскага (разам з войскамі Польскага каралеўства) над крыжакамі пры Грунвальдзе;

8 верасня 1514 года — дзень перамогі ваяроў Вялікага княства Літоўскага пад кіраўніцтвам Канстанціна Астрожскага над войскамі Маскоўскага князя Васіля III на рацэ Крапіўна пад Оршай;

1529, 1566 і 1588 гг. — гады прыняцця Статутаў Вялікага княства Літоўскага;

25 сакавіка 1918 года — дзень абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі;

3 ліпеня 1944 года — дзень вызвалення сталіцы Беларусі г.Мінска ад нямецка-фашысцкіх акупантаў;

27 ліпеня 1990 года — дзень прыняцця Вярхоўным Саветам БССР Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР;

15 сакавіка 1994 года — Дзень Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь.

Але ёсць і шмат такіх дат, якія ўвайшлі ў жыццё народа як чорныя, прынесшыя людзям смутак і гора. Такімі датамі для беларусаў з'яўляюцца, напрыклад:

980 год — захоп Полацка наўгародскім князем Уладзімірам і забойства ім полацкага князя Рагвалода;

1067 год — год бітвы на рацэ Няміга паміж войскамі паўднёва-рускіх князёў Яраславічаў і полацкага Усяслава Брачыславіча;

1696 год — забарона дзяржаўнасці беларускай мовы;

1772, 1793 і 1795 гг. — гады падзелаў Рэчы Паспалітай паміж Расійскай і Аўстра-Венгерскай імперыямі і Германіяй, у выніку чаго перастала існаваць Вялікае княства Літоўскае як дзяржава;

1832 год — закрыццё Віленскага універсітэта як галоўнай крыніцы беларускасці;

1840 год — забарона Мікалаем I ужывання назвы Беларусь;

18 сакавіка 1921 года — падпісанне дагавора паміж РСФСР, Украінай і Польшчай, згодна з якім заходняя частка Беларусі адышла да Польшчы;

канец 1929 — пачатак 1930 года — пачатак сталінскіх рэпрэсій у БССР супраць прадстаўнікоў так званага нацыянал-дэмакратызму;

22 чэрвеня 1941 года — пачатак Вялікай Айчыннай вайны;

26 красавіка 1986 года — дзень аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

I вось да гэтых трагічных дат у гісторыі Беларусі прыбавіўся яшчэ адзін чорны дзень. Гэта 24 лістапада 1996 года — дзень дзяржаўнага перавароту, які здзейсніў А.Лукашэнка ў мэтах устанаўлення асабістай улады. І чым больш мы аддаляемся ад гэтага дня, тым больш яскрава відаць тое злачынства, якое ўтварыла ўлада супраць беларускага народа.

Але давайце спачатку ўзгадаем, як гэта ўсё было. Убачыўшы, што перашкодай на шляху ўстанаўлення дыктатуры ў краіне з'яўляюцца дзве іншыя галіны ўлады — заканадаўчая і судовая, — А.Лукашэнка пачаў барацьбу з Вярхоўным Саветам і Канстытуцыйным судом ужо з першых дзён свайго прэзідэнцтва. Справа дайшла да таго, што дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII склікання былі збіты работнікамі аховы прэзідэнта ў самой зале пасяджэнняў, куды яны наогул не маюць права ўваходзіць. Адначасова Лукашэнка пачаў весці агітацыю на зрыў выбараў новага складу заканадаўчага органа.

Усё гэта цяжка ўявіць чалавеку цвярозага розуму. Але ж гэта было так: нават у дзень выбараў, якія праводзіліся на падставе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прэзідэнт дзяржавы заклікаў грамадзян не ісці галасаваць, бо, маўляў, каго б ні абралі, "усё роўна ашукае". Па-першае, сам гэткі зварот да людзей у час правядзення выбараў з'яўляецца грубым парушэннем заканадаўства Рэспублікі Беларусь, ужо не гаворачы аб тым, што не паддаецца ніякім нормам этыкі.

Любому цывілізаванаму чалавеку вядома: адной з галоўных функцый Вярхоўнага Савета і Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь з'яўляецца кантроль за дзейнасцю выканаўчых органаў, у тым ліку і прэзідэнта (каб не парушалі Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь і не ашуквалі народ). I, відаць, каб бескантрольна ашукваць грамадзян сваёй краіны і кіраўнікоў міжнародных арганізацый, А.Лукашэнка і пачаў лютую барацьбу за ліквідацыю гэтых органаў і стварэнне замест іх чыста дэкаратыўных структур, як гэта і было, напрыклад, у фашысцкай Германіі, якую Лукашэнка ў інтэрв'ю нямецкай газеце назваў узорам прэзідэнцкай рэспублікі. Зыходзячы з гэтага, можна меркаваць, што сваю ролю ён бачыць такой, якую выконваў у Германіі тых гадоў Адольф Гітлер.

З гэтай жа мэтай, па прыкладзе таго ж А.Гітлера, а таксама другога вядомага дыктатара І.Сталіна, партрэты якога заўжды можна бачыць на афіцыйных святочных шэсцях побач з партрэтамі А.Лукашэнкі, апошні і яго паплечнікі поўнасцю манапалізавалі дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі.

А.Лукашэнка і яго падручныя спяшаліся, бо ўвосень 1996 года старшыня Кантрольнай Палаты Рэспублікі Беларусь В.Саковіч павінны быў выступіць на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з дакладам, у якім, мяркуючы па першай яго частцы, з якой В.Саковіч ужо выступаў, былі б паказаны такія факты карупцыі ў прэзідэнцкіх структурах, што прыведзеныя даныя кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Лукашэнкам аб карупцыі ва ўрадзе В.Кебіча здаваліся б дзіцячым лепетам.

Крывадушнасць і ашуканства, у чым у час выбараў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Лукашэнка спрабаваў абвінаваціць будучых дэпутатаў, сталі галоўнымі метадамі ў працы яго самога і яго саўдзельнікаў па здзяйсненні дзяржаўнага перавароту. Гэтыя ганебныя метады падману народа спатрэбіліся А.Лукашэнку, каб навесці паклёп на дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і неяк замаскіраваць ад сусветнай грамадскасці сапраўдную мэту правядзення так званага рэферэндуму. На жаль, першае сяк-так яму тады ўдавалася: многія прастадушныя людзі верылі, што Шарэцкаму нібыта Амерыка дае мільёны долараў, што дэпутаты Вярхоўнага Савета быццам бы вырашылі плаціць сабе пенсію ў вялікіх памерах ужо з 35 гадоў, а таксама іншай хлусні, якая лілася ў тыя дні з вуснаў самога Лукашэнкі і яго халуёў.

А вось што тычыцца падману сусветнай грамадскасці — тут у ашуканцаў не атрымалася. Вопытныя кіраўнікі дзяржаў, парламентарыі іншых краін і дыпламаты ведалі з гісторыі, як папярэднія Лукашэнку дыктатары (Мусаліні, Гітлер, Сталін) таксама часамі апраналі авечую скуру і прыкідваліся "законнікамі", калі збіраліся здзейсніць чарговы падман народа, у тым ліку і ў час правядзення рэферэндумаў у сваіх краінах. Больш таго, Лукашэнка і яго памочнікі, спяшаючыся, рабілі ўсё так груба, што паўсюдна былі відаць канцы шматлікіх парушэнняў дзеючай Канстытуцыі і заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Сваім указам Лукашэнка незаконна адхіліў ад выканання абавязкаў старшыню Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў. Нібы ў час вайны, будынак Цэнтрвыбаркама акружылі ўзброеныя вайскоўцы з аховы прэзідэнта, што стварыла спрыяльныя ўмовы для фальсіфікацыі вынікаў рэферэндуму. Напярэдадні 24 лістапада вайскоўцы запоўнілі галоўныя вуліцы горада, а на плошчы Незалежнасці стаялі нават БТРы. Фінансаванне, друкаванне і дастаўка бюлетэняў да ўчастковых выбарчых камісій праводзіліся, зноў-такі ў парушэнне заканадаўства, Упраўленнем справамі прэзідэнта. Указам прэзідэнта вынікі рэферэндуму былі прызнаныя абавязковымі, у той час, калі на кожным бюлетэні была зроблена адзнака аб тым, што пытанне па ўнясенні ў Канстытуцыю змяненняў і дапаўненняў носіць кансультатыўны характар.

Усе пералічаныя і мноства іншых парушэнняў у час падрыхтоўкі і правядзення так званага рэферэндуму былі заакціраваны і перададзены для разгляду ў пракуратуру Рэспублікі Беларусь. Але, як і трэба было чакаць, адказу на ўсё гэта не паступіла.

Вядома, што пры гэткіх умовах міжнародныя назіральнікі ад удзелу ў рэферэндуме адмовіліся. Вынікі рэферэндуму амаль усе міжнародныя арганізацыі прызналі нелегітымнымі, а "працягнутая" праз яго з парушэннямі законнасці Канстытуцыя ахарактарызаваная імі як недэмакратычная. Нелегітымнымі з'яўляюцца і створаныя на яе падставе так званы Нацыянальны сход, Канстытуцыйны Суд і іншыя дзяржаўныя органы, а таксама прызначаныя ў парушэнне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (1994 г.) кіраўнікі.

Калі гэта ўсё аналізуеш, дык міжволі на розум прыходзіць думка: як жа трэба не паважаць законнасць і свой народ, каб, ведаючы ўсё гэта, гаварыць, што Лукашэнку на рэферэндуме, маўляў, падтрымаў народ! Аб гэтым заяўляюць тыя, што з'яўляюцца саўдзельнікамі дзяржаўнага перавароту. На самай жа справе народ быў падмануты і маўчаў. А падтрымалі здзейсненае пад выглядам так званага рэферэндуму злачынства тыя, каго Лукашэнка да гэтага часу гідліва называў "быўшымі", — гэта былыя кіраўнікі кампартыі, якія ўвесь час марылі, як "вярнуцца да таго карыта", дзе смачна замешана. У так званай "палаце" апынуліся і тыя, што займаюцца бізнесам, не прытрымліваючыся норм законаў, і, як відаць, баяцца адказнасці, бо пры таталітарнай сістэме, калі і няма парушэнняў, дык іх могуць сфабрыкаваць. Па гэтай прычыне туды пайшлі і некаторыя кіраўнікі прадпрыемстваў, якіх таксама запалохалі ўсё той жа адказнасцю. Падтрымалі Лукашэнку і многія кіраўнікі Расійскай Федэрацыі, якія заражаны бацылаю "западноруссизма", які адмаўляе існаванне беларусаў як самастойнага народа, і мараць аб аднаўленні Савецкага Саюза з былым таталітарным ладам. Яны палічылі, што для здзяйснення іх імперскіх імкненняў у адносінах да Беларусі і вяртання да парадкаў былых часоў найбольш падыходзячым кіраўніком Беларусі можа быць Лукашэнка, якога можна выкарыстаць у сваіх мэтах шляхам абяцанняў дапамагчы яму здзейсніць сваю мару — стаць прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі, у склад якой увайшла б і Беларусь.

З таго чорнага дня прайшло ўжо два гады. І што мы бачым?.. А вось што:

замест абяцанняў спыніць крызісныя з'явы і павысіць жыццёвы ўзровень насельніцтва — яшчэ большае паглыбленне крызісу і збядненне народа. Для доказу жабрацкага становішча, у якім апынулася большасць жыхароў Беларусі, не трэба прыводзіць шмат лічбаў і параўнанняў. Гэта можна ўбачыць у кожным магазіне, паглядзеўшы на цэны і прыкінуўшы, што можна купіць за заробак рабочага і калгасніка, настаўніка і медыка, ужо не кажучы аб пакупной магчымасці пенсіянераў. Але вось толькі адно параўнанне, якое красамоўна сведчыць аб тым, да якой галечы даведзены народ: кошт добрага (не шыкоўнага) вянка на магілу роўны амаль чатыром мінімальным заробкам. Пра якое паляпшэнне жыцця людзей можна гаварыць?..

Як далей могуць знаходзіцца кіраўнікі ўрада і ўсялякіх там "палат" на сваіх пасадах? Няўжо ім не сорамна глядзець у вочы людзям, якія, не ведаючы іх сапраўднага твару, у свой час ім паверылі?

*(Працяг на 2-й стар.)*

## Референдум-96: нищета масс в пользу новых "красных баронов"

**24 ноября 1996 года Александр Лукашенко повернул вспять историю нашей страны. Оживает мрачное прошлое, тревожит: будет ли у Беларуси будущее?**

*В итоге плебисцита*

| Беларусь потеряла: | Беларусь приобрела: |
|---|---|
| 1. Законодательную и независимую судебную власть | 1. Авторитарный режим и хозяйский сапог |
| 2. Фундаментальные права и свободы граждан | 2. Нищету и безработицу для простых людей |
| 3. Место среди цивилизованных государств | 3. Голодных детей и продовольственные очереди |
| 4. Время для покаяния по безвинно загубленным | 4. Раскол в обществе |










Президент и два его народа. Слева — народ, который умеет бить. Справа — народ, который умеет голодать.



## Заява Беларускай асацыяцыі журналістаў

Мы, сябры Беларускай асацыяцыі журналістаў, сёння даведаліся, што нашаму калегу Паўлу Шарамету беларускія ўлады адмовілі ў праве выезду з Мінска ў Нью-Йорк на цырымонію ўручэння яму прэміі Камітэта абароны журналістаў. Гэтае рашэнне ўладаў выклікае наша агульнае абурэнне і пратэст. Хаця фармальна факт забароны выезду журналіста тлумачыцца тым, што яшчэ не скончыўся тэрмін ягонага ўмоўнага пакарання, у сувязі з вядомай "справай ГРТ", няма сумневу ў тым, што дадзенае рашэнне ўладаў мае палітычныя матывы.

Даводзіцца канстатаваць, што абмежаванне свабоды слова, пераслед журналістаў вядзе і да абмежавання іншых правоў чалавека, уключна з правам на свабоду перасоўвання.

Мы выказваем салідарнасць з Паўлам Шараметам, падтрымліваем рашэнне Камітэта абароны журналістаў аб прысуджэнні яму прэміі і патрабуем ад уладаў Беларусі перагледзець рашэнне, якое яшчэ больш падрывае аўтарытэт і міжнародны прэстыж нашай краіны.

**Рада Беларускай асацыяцыі журналістаў.**
**20 лістапада 1998 г.**

## Сёння — дэманстрацыя пратэсту

Кожны, хто адчуў на сабе ўсе цяжкасці жыцця, якія прыйшлі следам за тым рэферэндумам, сёння можа падаць голас пратэсту, заявіць аб сваёй надзеі на лепшае жыццё. Зрабіць гэта можна на дэманстрацыі і мітынгу, якія пачнуцца сёння ў 17 гадзін на плошчы Якуба Коласа і дазвол на правядзенне якіх атрымала Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная грамада).

